З гора выбіўшыся троху,
Не клялася у грахах.
І цвіла зялёным мохам
Саламяная страха.

Як любілі кавалеры
(Хай іх ветрам разнясе!) —
Да пастылае вячэры
Гандзя звыкла пакрысе.

...Заварыла чай з рамонкаў,
Вар у кубкі наліла.
І са мной сваю гамонку
Наконт шыферу вяла.

## АНДРЭЮ

Ах, не бойся: гэта сэрца
Развярэдзіла ўспамін.
Нікуды мне не падзецца
Без цябе, мой мілы сын!

Нат калі я ў скрусе слотнай —
Я з табой, малы мядзведзь.
І пры мне твая турбота:
«Без мяне, глядзі, не едзь!»

Усміхнецца, непакора,
Голас — срэбрам у бары:
«Ты вязі мяне на гору,
Ну, а я цябе — з гары».

Я з табой іду і еду
То з гары, а то наверх.
І цвіце раса па следу,
Як нязменны твой давер.

І ў дарозе невядомай
Нельга мне расслабіць крок.
Хто ж мяне чакае дома,
Апрача цябе, сынок?

* * *

Дзесьці жаўра ў небе цінькае,
Я ж у смерці на краю
Басаногае дзяцінства
На іржышчы пазнаю.
З прагавітымі вачыма,
Як галодныя гракі,
Дзеці, родам з той, Айчыннай,
Ў полі лушчаць каласкі.

## ПОЛЕ МАЎЧАННЯ

Дзе ўпаў салдат — зары пагасла плошка
І каменем застыла цішыня.
Праз камень той прабілася валошка
І скрозь валошку — ясны воблік дня.

* * *

Вось турбот тваіх паляна,
Звечарэлых сосен медзь.
...На вятры скразным, як рана,
Крылцу кепачкі ляцець.

У вішнёвым, у маёвым
Белым кіпені — зямля.
Паўтараюцца нанова
Кольцы часу і камля.

У жыццё жыццём загнаны,
Усміхайся дням здалёк.
Паспрабуй, акальцаваны,
Не па кругу — папярок!

Зоры выспелі на Яна,
Іх, што ягад у траве.
...На вятры скразным, як рана,
Ветразь кепачкі плыве.

* * *

Жоўтага ліпеня мёдныя соты.
Чыстая споведзь ракі.
Выкрала ў кога расінку пяшчоты?

...Ты не такі.

Лёгкаму ветру біцца пад вечар,
Дзён атрасаць матылькі.
Выбрала як невясёлую стрэчу?

...Ты не такі.

Непадуладныя часу і волі,
Словы — вастрэй асакі.
Хіба я гэткай малілася долі?

...Ты не такі.

Жоўтага ліпеня полаг світае,
Неба нясуць жаўрукі.
Дай жа мне шчасцейка
на развітанне.
...Ты — не такі!

* * *

У маладой журбе
Мой новы дзень імжыць.
З табой і без цябе
Я прывыкаю жыць.

І долі не кляну,
Жыву такой, як ёсць.
Гарчэй ад палыну
Світае маладосць.

Мядовы пах сянца,
Туман — што сырадой.
...Каханы,
да канца
Абраны ты другой.

Любві не наталіць
Скупой дажджынкай дня.
А жыць — пакуль баліць
На сэрцы вышыня.

* * *

Чым пачыналася яна,
Дарожная аповесць,
Чыя была у ёй віна,
Чыя гучала споведзь?

Была святочнай далячынь,
Як за акенцам — ранне,
Як на маім зямным плячы —
Цяпло твайго дыхання.

Ірваліся істужкі рэк
Пад сховай апаўночы.
Былі на міг, а ці на век
Вачам адкрыты вочы...

Запомніць праз туман-імжу
Кароткую аповесць,
Нібы на нітачцы дажджу —
Сярэбраную споведзь.

* * *

Прыходзіш з нагоды ці з суму,
З віны, а ці з лютай зімы?
О, колькі няўдзячнага шуму
Трымаюць трывожна дамы!

Ты й зараз баішся змыліцца
На дрогкі агонь у акне.
Замецена снегам сталіца
Ці позні твой след да мяне?

Прысядзь, я цябе не прымушу
Адкрыцца ў расстайнай журбе
І шчасця твайго не парушу,
Калі яно ёсць у цябе!

* * *

Звініць намёрзлае галлё,
Дзень выпіты да донца.
Растань,
адчужанасці лёд!
Праглянь,
даверу сонца!

Я думала, што не з рукі
Ісці з табою поруч,—
Ды разліліся жаўрукі
Над звеснавелым борам.

Вяртаецца, як з даўніны
Сівой, адхлання фрэска:
З тваёй вайны, з маёй віны —
Акопная пралеска.

* * *

Адчайна-маладыя,
Ты п'еш па-веснавому
Палескія сады,
Вішнёвых дзён аскому.

Не сніцца тратуар.
(Яшчэ й гасцінец-бацька!)

...Ляглі шляхі на твар,
Няпрошана, знянацку.

Ступаю на зямлю
І чую: звоняць рэкі
Світальнае — «люблю»,
Вянчальнае — «навекі».

Там Прыпяць не сплыла,
І не звяліся зёлкі,
І грэшнага святла
Рассыпаны асколкі.

* * *

Плыве да ног гарэза-хваля,
І ападаюць на пясок
Каліны вогненнай каралі
І лугу тонкі паясок.

Вясковы ўклон табе, о мора!
Я ўся твая — але на крок:
Баюся, змыеш ты на гора
Каліны вогненнае сорам
І лугу крэўны паясок.

* * *

Ішла шляхом-развілкай,
А па прамой — сусед.
(Вось тут мая памылка.)
...Не наступі на след!

А шлях, з імжы сатканы,
Быў слізкі, як паркет.
(Вось тут маё спатканне.)
...Не наступі на след!

Бяда ў ціскі зашчэміць,
Ды колькі іх, тых бед!
(Вось тут маё хрышчэнне.)
...Не наступі на след!

Але вясёлы, ранні
У твар прасцяг — хоць пі...
(Вось тут маё дыханне.)
...Не наступі!

## МАЛОДШАМУ БРАТУ

У гітары тонкі звон,
Да тугі струна напята.
Распагоджаны сезон.
І туга мінае брата.

Крышаць струны першы лёд,
Ды струменіць дзён паводка,
Дзевятнаццаць спелых год.
І струна плыве, як лодка.

Сам гусляр і сам вясляр —
Мой найменшы і калючы.
...Захіляю ціха твар —
Мне ад музыкі балюча.

Ці дажджлівы выпаў год,
Ці чаканне — стараною:
Дзевятнаццаць спелых год,
Незваротных — за струною.

* * *

Дарогу выслаў лістапад
Суворую, ды мяккую.
За сто падказак і парад
Я вам, сарокі, дзякую.

Калі палонны мой настрой
Вы дзесьці абрываеце
І клікаць мілаю сястрой
Мяне не забываеце.

Затым, як кажуць, не
ў папрок,—
У пераплёт пускаеце,
А павітаўшыся здалёк,
Ізноў не забываеце,—

Я адчуваю, што для вас
У чымсьці маю рацыю.
Інакш нашто б дарэмна час
Вы залаты свой трацілі!

* * *

Бойся расінку аславіць
І растаптаць яе звон.
Забур'янелая памяць
Ўрываецца ў сон.

Гэта мяне суцяшалі
Так — што апомніцца жах!
І за мяне выраашалі
Мною не пройдзены шлях.

Гэта мяне пакідалі
У рукапашнай грамоў.
Але яснее з гадамі
Вера, Надзея, Любоў.

Бачу ў таварышы — брата.
Чую ў сяброўцы — сястру.
І прад сабой вінавата
Ў тым, што вядома пяру!

## ВОЛЬНАЯ ЖАНЧЫНА

Глядзеў, калі ішла праз поле...
Сачыў, як знікла у бары...
І адпусціў яе на волю,
Бы рыбку пушкінскі стары.

Ды спадзяваўся ўсё ж,
што прыйдзе,
Адумаецца, прыплыве.
Чакаючы — узненавідзеў
Сябе самога і яе.

А што ж было з маленькім
сэрцам
І нёс куды вясновы шал?
Як выбар між жыццём і смерцю —
Яе нязгасны ідэал.

Кругі расстання пад вачыма,
Дарог няўтульныя лаўжы...
Навошта ж воля для жанчыны,
Калі ёй цэлы свет чужы!

## АСЯ

Чаму ж такая з веку ў век
Нам прымаўка прыйшлася:
«Сабака, а не чалавек».

Сабаку звалі Ася.

За тры рублі каля піўной
Яе прадаў вясёлы
Паклоннік Бахуса.
                    (Малой
Іпоў на месяц сёмы.)

Туманіўся яго пагляд —
Далёка да палучкі:
«Ручаюся за дом і сад,
Ды ведаеце — сучка!..»

Быў добры новы гаспадар,
Спагадлівы, няйначай,
Бо нечакана — твар у твар —
Не вытрымаў сабачых
Вачэй.
          Пусціў каля прысад
І перад самым ганкам.
О бегла як яна назад,
Нічыйная бяглянка!

* * *

Не думаць: скончыцца Яно,
Ацiхне на хвілінку,
Спадзе пад ногі палатном
На суравым прыпынку.

Вось незамглёны воблік мой
У высакосны будзень,
Як доказ горкай праўды той,
Якімі ўжо не будзем.

Але і там, дзе сосен шум,—
Я буду сніцца маю
За гэты боль, якім пішу,
За той — якім кахаю.

* * *

Больш для сябе не існаваць
І з болем — не зміршцца.
Як знаць: *каго* мне прывячаць,
*Каму* услед маліцца.

Пячэ зіхоткая раса
На халадку самоты.
А я — жыла, а я — расла,
Каб здагадацца: хто ты!

Яшчэ пастукае ў душу
Галінкаю надзеі
Пра чысты дождж, зялёны шум,
Ціхмяны спад завеі.

Ляцець трывожнаму пяру
Пад стрэсам, пад аблогай...
Як знаць: з табою гавару
Ці з цэлаю эпохай?

* * *

Сярод зімы сняжыстай,
Сярод вясны вятрыстай
Я вырасла, каб сэрцам
Адчуць цяпло зямлі...
А сэрца, нібы ліст той,
Трапечацца празрыста
Датуль, пакуль балюча
Мы рук не разнялі.

У звечарэлай скрусе,
Калі святлу малюся,
Што узышло ласкава
Над горкай цішынёй,
Скажы, якою сілай
На боль скразны «мой мілы!» —
Ты ціха адплываеш
Да прыстані другой?

Скажы, з якой нагоды
Не на гады, а годы
Расстайныя адлічваць
Шляхі і цягнікі,
І спішыцца на думцы
Адной,
адкуль не клічуць
Ні воблачкам адчаю,
Ні поціскам рукі.

* * *

Бег наступных вякоў
Пры святле адзіноты.
...Штосьці ж многа званкоў.
...Штосьці мала работы.

Хай скупая сляза
Не збаіцца збавення.
Шчыра ратую за
Несмяротнасць імгнення.

З той салёнай, крутой
Заручоныя доляй,
Мы прыходзім да той,
Што завецца — спатоляй.

Начыні алавок
Барацьбою і страсцю.
Крок за крокам — і крок,
Каб заўчасна не ўпасці.

* * *

*Марыі Захарэвіч*

А з якога ж падвор'я
Шчасце з дробнай слязой?
Маша, вёска Надвор'е —
Тысяч сем пехатой.

Можа, глянуў бы ўранні
Хоць праменьчык скупы...
Маша, вёска Каханне —
Дождж празрысты сляпы.

Між купчастых сасонак,
Дзе палын і мурог,—
Да тваіх Навасёлак
Шлях зваротны пралёг.

Рыпнуць стоена дзверы,
Зіркне кухні абрыў...

Твой глядач у партэры,
Што ён цяміць пра ўзрыў

Скупа выданай ролі —
(Уваходзь і жыві!) —
Не на сцэне — на полі
Прынароднай любві.

* * *

Па запрашэнню я памкну
На гулкае вяселле
У дарагую старану,
Дзе ўжо рыхтуюць вэлюм

Той паляшуччы маладой
У васемнаццаць зорных.
...Вязу дарожанькі сувой,
Вязу ручнік узорны.

Вось і ваколіца прыйшла,
І песня узляцела:
«Сама знайшла, сама пайшла
Ды за каго хацела...»

Спявае дружна талака
Так, як і мне спявала,—
«На белу ручаньку рука
Сама сабой упала».

Дыханне гордае стаю,
Зап'ю віно вадою
І ў сенцах ціха пастаю
Хоць трошкі маладою.

## МАМА
## ПАДРЭЗАЛА КОСЫ

Быццам палын у пракосах,
Частая сівень імжыць.
Мама падрэзала косы —
Стала іх цяжка насіць.

Вёрсты смылелі даўгія,
Доўгія ночы — на ўздых.
Доўгія косы тугія,
Ой, на плячах маладых!

Пылам іх, горам накрылі
Скруха, вайна і крыжы.
Доўгія косы любілі
Два, што ў магілах, мужы.

Сталіся зімамі вёсны,—
Ані жаўронка ў палях.
Мама падрэзала косы —
Як укароціла шлях.

* * *

Санейкі — палозейкі,
Заліхвацкі снег.
Ці вачам на слёзанькі,
Ці душы на смех

Так лячу —
гады нібы
Атрасаю з плеч,
Міма саду-ягады,
Міма — стрэч!

* * *

Весела лятаць рукам —
Хату прыбіраць.
Прываротным зелейкам
Стану частаваць.

Макавае зернетка
Хмелю-ведуна —
Каб сушыла сэрцайка
Толькі я адна!

Зелле згатавалася,
Пеніцца-гудзе.
Ой, дарма старалася:
Мілы не ідзе.

## ПЕРАПРАВА

...Ды пры чым тут рута-мята!..
Хтось кранууў плячо: «Чакай:
А у лодачніка свята —
Нарадзілася дачка.
Ён і так «закласці» любіць,
Ну, а тут — мамент якраз!»

Правы бераг ціш галубіць.
Левы — спіць, як напаказ.

Што ж, шукаць прыйдзецца броду.
(Але дзе тут гэты брод!)
А сабралася народу,
І вясёлы ўсё народ.

Вось і лодачнік васкрэснуў:
Куму трэба акурат

На той бераг, хоць ты трэсні!
На той бераг — просіць сват.

Куму штосьці надта ж цяжка
Стопудовую ўсадзіць —
А ў кумы з карзіны пляшка
Белай гускаю тырчыць.

І пайшоў хадзіць увішна,
Як вясёлы калаўрот,—
Аглаблёвае кілішак
З рук у рукі, з рота ў рот.

Хтось гурок з лістком укропным
Працягнуў: «Прыняць прашу».
І чужога шчасця кропля
Апякла да дна душу.

Вось тутэйшае прыпеўкі
Над вадой усплыў басок:
«Палюбіла хлопца дзеўка —
Пацягнула на квасок».

«Пане Езус пахвалёны,
Шапка чорна, верх зялёны —
Шоў дадому, а папаў
Да суседкі пад рукаў».

Толькі лодачнік смяецца:
Ён другую прыгадаў:
«За чужой пагнаўся Пеця,
Ля сваёй жа — дух аддаў».

Свату стала нешта млосна
(Пеця ж — ён! І больш ніхто!):
«Частавала кума Зося
Не за ета, а за то...»

Усміхаюцца малодкі,
І рагочуць мужыкі,
Ды снуе па хвалях лодка
Разгайданае ракі.

* * *

А як хацелася цяпла
У першых прымаразках ночы!
Разлука стрэчы абняла,
Журбою высветліла вочы.

Пра што з палёгкай гаварыў —
На сэрца каменем упала.
У рэзкіх променях зары
Мая туга табой світала.

Так, ты на міг.
Так, ты, як цень.
Так, ты, як росчырк прасвятлення.
Збылося так, як ты хацеў:
Ні шкадавання, ні ўніжэння.

Збылося так, чым я жыла:
Цяпло зімы і сівер маю.
Мой боль —
На вышыні святла,
Таму і ноччу мне світае.

* * *

Назло якой імжы
Ты з цішай у хаўрусе?
...Вясновыя стрыжы
Снуюць над Беларуссю.

Як высака іх лёт
У танцы шматгалосы!
І быць наадварот
Таму, што ўжо збылося!

Зачэрпну ранніх зор,
Празрыстае расіцы —
І захлісне прастор
Ад вёскі да сталіцы.

Якая там імжа,
Якое там напасце,
Калі трымціць душа
На тонкай гольцы шчасця!

* * *

У безназоўнай цішыні,
Дзе перагорнуты старонкі
Жыцця, ці ўспомніш тыя дні
І голас мой ад шчасця звонкі?

А я баюся пастарэць
Хаця б на макавае зерца —
Ці не таму, што ўжо звінець
Не хоча спуджанае сэрца?

Ды ўзяўся ранак на святло.
А поўдзень доўга лашчаць промні.
І тчэцца сцежка праз «было!..» —
Ты хоць яе, адну, запомні:

Яна ў ажынах і ў расе
Бяжыць балюча і вясёла,
Такая сцежка, як і ўсе,
Што ногі некалі калола!

* * *

Дні назад перагартаю
Ды прайдуся, як па лузе.
Усміхнуся, запытаю:
«Як жывецца Вашай Музе?»

«Ох, і язва! Ох, навала! —
Адгукнецца даскавала,—
Быццам горачка не знала,
Быццам шчасця не займала?..»

Хоць і знала — не лічыла!
Хоць займала — не з жадобы!
Надта ж тайнымі вачыма
Ты прыйшоўся даспадобы.

Не, не мне! — маёй, бяссоннай,
Грэшнай, дзіўнай, невядомай
Долі,
        што на небе сёмым
Так жыве, нібыта дома.

* * *

Бліcне поўні кальцо,
І засвецяць былінна —
І тваё азярцо,
І мая лугавіна.

Не спалохаць ужо
Ні карчам, ні вядзьмяркам.
...Пастушыны ражок.
...Ранні голас даяркі.

Прачынаецца дзень
У хадзе, у трывозе.
Ліст прыбляклых надзей
Затрымціць на бярозе.

А сусед малады
Праўду мне перайначыць:
«Кожны жнівень сюды
Прыязджаю рыбачыць».

## Я

Ноччу цёмнаю, настылаю
На сабе пагляд злаўлю:
Пакахаю — не памілую,
Сто гадоў не разлюблю!

* * *

Не, не паселішся тут:
Іншы чакае куточак.
Некалькі слаўных мінут...
Хай жа прадоўжацца вочы!
Не, ты не мой, дарагі.
Божа, з якое дакукі
Мы, быццам два берагі...
Хай жа прадоўжацца рукі!
Буду цішэй ад вады,
Ніцаю стану травою.
Хоць жа — гады у рады —
Ты, назаўжды малады,
Не развітайся са мною!

* * *

Вось так і з табой адыходзім
У будзень турбот, дарагі.
Святлюткае сонца на ўсходзе,
На захадзе — сонца тугі.

Пакуль я была невысокай
І ног не знябыла шаша,
Здавалася студня глыбокай
І рэчкай — струмочак з каўша.

Над ціхай зялёнай вадою,
Над раскай глухога цяпла,
О так, я была маладою!
О так, я вясёлай была!

* * *

І сямейнай картай бітая,
І дарогай стаўпавой,
Друг мой любы, на адкрытую
Разгамонімся з табой.

Свет для шчасця не заслонены,
Ды скупы, як і здавён.
Чую сэрцам: забаронены
Мне твой радасны палон.

Ой круты расстання бе-
ра-
жок,
Але горыч не ўтапіць.
Колькі раз я памірала ўжо,
Засталося толькі — жыць.

# АКНО Ў ДОЖДЖ

*Паэма*

Быў час не позні і не ранні.
Вадой пахрышчаны асфальт
У вужаватым чорным ззянні
Нагадваў мне адценні хваль.
На час спыніліся трамваі,
Сышлі аўтобусы на сон.
І — смешна я ў руцэ трымала
Больш непатрэбны парасон.
Бог з ім, з ахоўным парасонам!
Тутэйшая, я — ад вады
Над гэтай вуліцай бяссоннай
І над гарачкай грамады.
О, колькі іх, дажджоў бязбожных,
Да ніткі зведала!
І ўсё ж
Я бласлаўляю дождж абложны
І навальнічны спорны дождж.
Пад ім, густым,
безабаронная
Наўрад ці выгляджу цяпер.
Хоць пры адной (усё ж!) законнай
Мілуецца мой кавалер.
Наадварот, я нават рада,
Што ўсё сумотнае — у дождж,
І што прыяцелькі парада —
Прайсціся пешкам, басанож —
Была не выдумкай калючай...
Без парасона, нарасхліст
Мудрэй адчуць, як волі вучыць
Зялёнароты мокры ліст.
А пад дажджом пабыць няшкодна,
Каб потым цешыцца цяплом.
Святая праўда маткі роднай:
«Знайдзі накрыты згодай дом».

Прызнацца, чулася іначай
З дзесятак год таму назад
Душой адкрытай, і дзіцячай,
І чыстай, быццам снегапад.
Цікавінка, дзяўчо, былінка,
Я памылялася той час!
...Разбіта шыбіна на шклінкі
У доме тым, дзе помню Вас.

Як позні час ні эканом,—
Мне не было куды спяшацца.
Чамусь хацелася дазнацца,
Што з гэтым сталася акном.
Кляла я брэх сабак дваровых
І правячых начным святлом.
Сто пяць прыступкаў цэментовых
Зафіксавалі мой пад'ём.
Я думала, не буду лішняй
Паміж карцін Яго і тэм.
І прашмыгну за дзверы мышкай,
Як хоць на ёту надаем.
Я мысліла ноч абхітрыць
Хоць бы за гэтаю сцяною,
Пакуль гулліва дождж шуміць
І (дзесь!) смяецца нада мною.
Дзвярэй абоі «пад сургуч»
Былі, на дзіва, не глухімі.
Вось павярнуўся крута ключ:
— Шляхамі познімі якімі?
Ох, птушка! Мокрая! Нашчэнт!
Люблю, цаню парыў палёту.
— А што Вы цэніце яшчэ?
— Не часта, але адзіноту.
(Ён апусціў пагляд самотны.)
— А Вы ж, здаецца, не адзін?
— У тым і соль: добраахвотны
І закарэлы сем'янін.
Традыцыя такога роду

На мудрым прозвішчы маім.
А што датычыцца разводаў —
Гарачка, нерватропка, дым...

Ён усміхнуўся дзіўна неяк,
Дастаў пантофлікі: «Бяры,
Пераабуйся... (Грыбасейны
Дождж расшчадрыўся у двары.)
Гэй, донна-жонка, разбудзіся!»

Яна не спала. І затым
Яе няспешны лік праліўся
Вянцом валосся залатым.
Ўзве суразмерныя маршчынкі
Акрэслілі стамлёны лоб.
Яшчэ нядаўняя дзяўчынка,—
Спанелая, чаму, з чаго б?
Я ведала яе спакусы,
Яе ўсясвецкі інтарэс,
І што яна з пары замуства
Цярпець не можа паэтэс.
(Хоць і сама, скажу дарэчы,
Грашыла музай неўпапад.
Ды мужа бранявыя плечы
Ўсё ж падказалі, што наўрад
Ёй варта рыфмамі займацца,
Ці варта дзень і ноч карпець
Па-над няўдзячліваю працай...
Бадай яе, лясны мядзведзь!)
О, зразумела: быць натурай
У цэнтры ўсіх зямных трывог —
На вопыце уласнай скуры
Адчуць, які ён — творчы бог!
Але на лёс свой запаветны
Малюся зорам і зямлі.
Калі з'яўляюцца паэты —
Дай бог, каб мужнымі раслі.
Няхай гадуе іх ласкава

І спорны дождж, і першы лёд.
Тады магутная дзяржава —
Калі вялікі ў ёй народ.
А што датычыцца паэтак —
То не такі ўжо тут прамах.
Жанчына-творца — завязь лета
З гарчынкай шчасця на губах.
Ліпнёвы квет ці замець носяць
Яе нязведанай сцягой;
Душа ці кнігаўка галосіць
Над кожнай новаю мяжой?
Круты пад'ём, калі — сямейка:
І згатаваць, і даглядзець,
І паміж тым часінай нейкай
Не наталяючыся — спець! —
Так думалася мне ў зацішшы,
Ў разрэзе ночы праліўной.
(І донна-Анна, паміж іншым,
Нібы згаджалася са мной.)

Яна на пальчыкі прысела,
Памацала крысся разрэз,
Нібыта ўпэўніцца хацела,
Якая ж я і ў ім — і без.
І пацеркі рукой манерна
Кранула, быццам незнарок:
— Ну дзе ж прапалі кавалеры,
Ці творам дадзены аброк?
Няўжо такі — і анікога?
А ці знябыты інтарэс?
Я пасміхнулася: «Дарога —
І ўся, і спрэс — дрымучы лес».
О, жонкі мілыя і дамы,
Не трэба тут шукаць прычын.
Мы ўсе мудрэйшыя з гадамі
У крузе выгадным мужчын.
І хоць вітаемся здалёк,—

Абглядваем, як рэч з прылаўка.
(Цэнь Святаянава: «Чаёк».)

(Чаёк, чамусь, падаўся даўкім.)
Піла і думала: «Навошта
Сюды, як дзесяць з гакам год,
Мяне,
        нібы паштоўку пошта,
Прынесла.
                    А між намі — лёд».
Ліў за сцяною дождж няспынны,
Пакутна гутарка цякла.
Лёд у вачах у гаспадыні,
Лёд у акне заместа шкла.
Лёд паміж слоў і паміж гукаў,
Лёд паглынаў утульны быт.
Драбочкі лёду замест цукру
І ледзяной тахты іспыт.
І голька мёрзлая надзеі —
Наш непрытульны карагод.
Я чула: рукі ледзянелі,
Да сэрца дабіраўся лёд.
Я думала, што недарэчным
Адбыўся мой начны кур'ёз.
Мільгала ледзяная свечка,
Ад ледзяных збяднеўшы слёз.
Пры чым тут пацеркі і ўборы,
Няўжо на іх і ўвесь акцэнт!

— А пішацца мудрэй у горы,—
Я чула, так казаў дацэнт
Аднога вуза.
І ён жа — крытык і паэт.

Я адказала: «Сімпатычна
Ён думае. І ў тым — сакрэт...»
Затым, маё спыніўшы слова,
Яна, як вопытны знаток,

Адкрыла лірыку Стральцова
І зачытала мне радок.
— Скажы, трагедыя якая?
Што сталася з яго душой?

— Пакуль баліць — яшчэ жывая...
— А што там з вашаю сястрой?
У сорак восем? Нечакана.
Відаць, не думала яна...

(Ўсплыло акно, нібы з туману,
А ці туман усплыў з акна.
Усплыў Яе апошні дзённік,
Журботны, як акна праём.)

— Па-рознаму за хлеб надзённы
Мы плацім. А яна — жыццём.
Радня... Работа... Магазіны...
Ужо з хваробай — у чарзе.

— Мужчыны вас любіць павінны.
Вам штосьці часта не вязе.
Вось і ў яе таго кахання...

(З чаго б пяклася за мяне?!)

Быў час не позні і не ранні,
І кактус дыхаў на акне.
Быў парадокс у кожным сказе,
А карацей — інтым-падкоп.
У дарагой напольнай вазе
Абледзянеў жытнёвы сноп.
(А дзесяць год... назад... ці многа?
І тая ж Анна. Толькі ў той —
Не за уласны быт трывога:
Больш натуральны і зямной.)
Апошняе, нібы праклянцце,
Пытанне ўчула, як праз сон:

— А многа за радок вам плацяць?

— На хлеб хапае і на соль.
Яна ўсміхнулася, адчуўшы,
Што інтэрв'ю канчаць пара.
А дождж нясхлынны, невідушчы
Усё ліў і ліў, нібы з вядра
Ён біўся аб сцяну гарохам
І вырываўся з цемнаты...
Яе пушыстыя пантофлі
Прайшлі за мной, як два каты.
У сінім дыме цыгарэтным
Плыў Святаянаў.
Што ж, пара
Мне ад гасціннасці фацэтнай
Ды да свайго вугла-двара.
Ірдзела ліхтара шчака,
Што ўслед глядзеўся мне з гасцінай.
(Цень Святаянава: «Чакай,
Вазьмі на памятку карціну.
Хацеў прынесці неяк сам,
(Прынесці з Аннаю хацелі.)
Вясною гэтай напісаў».)

«Палессе. Птушкі прыляцелі».

Дзе мыс раскошнага квартала,—
Там я калісь кватаравала
З трывучай сілаю сялянкі
І з невылечнаю душой,
Абраўшая абрыў бяглянкі
Між росным лугам і шашой.
Мяне так дзіўна прывячалі,
Суцешвалі балючы зрок;
Мяне так шчодра частавалі,
Пакуль — ні слова на радок.
Але глыток святла — прычасце,
Радок — павечная аброць.

Крычыш, але не просіш шчасця
Ты, запакінутая плоць!
Вось так з апратак вырастаем,
Ды часта росту не стае.
Цяпер твае часы насталі,
Паўсюль, Паэзія, твае.
Як цепляцца на завязь словы
І тчэцца музыка на ўток.
Чым не абнова — ліст вясновы
Ці лёну польны паясок?
Душой аслепшы, невідушчы,
Учуеш сэрцам як-ніяк
Зазыўны кліч зубрынай пушчы,
Апошняй, як лацінкі знак.
Разніме памяць рукі весніц,
А дзень аглух. А двор маўчыць.
Так мацеркі знікае песня,
Калі няма каго вучыць.
Ды ў цішыні бароў напеўных,
У гамане сястрыц — зязюль
Я ў тым шчаслівая, напэўна,
Што не выходзіла адсюль.
Паміж жыццёвага хаосу
Над чарнавой сцягой жыцця
Я так цяпер удзячна лёсу
За міг жыцця, за сэнс жыцця.
Зачую ў полі песню-жнейку,
А ці крынічанькі струмок,—
І як лазовую жалейку,
Трымаю мовы веташок.
Куваюць у лясах зязюлі,
І мёдам дыхаюць бары.
Шчэ столькі песень у бабулі
Не перанялі «Песняры»!
Паклон ім,
жніўным і калядным,
Жартоўным, сумным і — крутым,
І як бяздонне — непраглядным,

І нібы сонца — залатым.
Паклон ім — мілым, галубіным,
Арлінным!
Высіцца іх лёт.
Тады магутная краіна —
Калі пявучы ў ёй народ.

...Быў час не позні і не ранні.
У чатырох сваіх вуглах
Я думала, што не растане,
Не зарасце драсёнам шлях
Ад сэрца к сэрцу...
Дождж прачысты
Усё пагульваў спакваля.
І траўкай кожнай, кожным лістам
Натхнёна дыхала зямля.
Я думала, што ў донны-Анны
Прайшла сумяціца начы.
А ў Святаянава — жаданы
Мастацкі выткаўся зачын.
Цяпер яны заварадь каву,
Узвысяць свой сямейны шчыт
І, як вясёлую праяву,
Успрымуць позні мой візіт.
І я патроху адсумую
Праз горкі мёд, праз колкі лёд,
Эх, часта ж рэўнасць наўдалую
Па сэрцах б'е жаноцкі род!
Я добра знаю,
донна-Анна,
З журбот уласнага быцця,
Што надта ж цяжка быць каханай
На працягу ўсяго жыцця.
Глядзіш: расце, расце узгорак
Наскрозь лядовы з-пад павек.
Трывожны час,
калі — за сорак,
У народзе кажуць: бабін век.

Цану адведаўшая плёткі,
Калючае, нібы агрэст,
Пытаюся ў вясковай цёткі,
У чым жыцця сямейны змест.
Патрыятычны сказ у цётак:
«Як нецвярозы дух злаўлю —
Іду ў гарод і дваццаць сотак
На тэй гарачцы прапалю.
Глядзіш, назаўтра — як шаўковы,
Хоць ты з яго вяроўкі ві:
Габлюе, косіць, коле дровы,
Ну, і клянецца у любві.
Ну, а любві тае, вядома,—
Што дзеткі ёсць і цёплы дом.
Любоў жа, часам, як салома:
Падпаліш — дыхай папялком.
Бувае, што й ад слёз не спіцца,
І душыць грудзі крыўды ком.
Бувае ўсякае, сініца...
А дзе ж накрыты згодай дом?
А колькі тых па вёсцы плётак! —
Хоць вочы хусткай завяжы...»

Зямны, як праўда, змест у цётак
І мудры, што там ні кажы!
І мо таму, з таго ж «сваяцтва» —
Са спрэчкі з плёткай сакаўной
І нараджаецца мастацтва,
Не раз абмытае слязой.

Мой даўні сябра Святаянаў
З юнацкай светлае пары,
Вось просень сонца ветла глянуў,
Душы аціхнуў боль стары.
Жыцця рашаючы задачу,
Як школьніца, яго вучу.
Нячутна над сабой заплачу
І утрапёна памаўчу.

Як часам доўга развідняе!
Ды разам з радасцю — спалох.
Маланка шлях пяражагнае,
Пяройдзе дзень чортапалох.
Журба, не мне табой журыцца.
Эх, крохкі ранняй славы лёд!
Шчэ завіхурыцца, замгліцца
Суцэльна высакосны год.
За безаглядныя учынкі,
За незваротную любоў
Бянтэжыцца душа — дзяўчынка —
Ў нявыказным палоне слоў.
А словы — што! Ёсць толькі песня,
І ў ёй, вядома, сэнс такі:
Калі ў душы ад сэрца цесна,
То нараджаюцца радкі.
Мой светлы сябра Святаянаў,
Не трэба нас, жанчын, мірыць.
Святло праглянецца з туману,
Дасць бог, адчай перасмыліць.
І жыць нанова — асалода,
Страчаючы вясну надзей.
Заднее ў сотнях вокан згода
І ў тым акне, дзе згаснуў дзень.
...Рукой дастаць да аблачыны.
...Забыць, што страчана даўно.
І беспрычынна, і з прычыны
Сваё расшторваю акно.

## ПЕРАШЫТАЯ СУКЕНКА

Аблачынка шоўку белая
У тры дарага цаны
Уцалела, не згарэла
За пажарышчам вайны.

Ў мроях песціла дачку сваю,
Песню дзіўную вяла.
Сваю шлюбную сукеначку
Як магла, так берагла.

Даставала з куфра воблачка
І хавала са слязой.
Падрастала ў мамы донечка,
Заглядала ў куфар той.

Перакроены, прыталены
Шоўку белага струмок,
І сяброўкамі ухвалены
Пышны бант і паясок.

Што ж цяпер сваю, вясновую,
Прэч хаваю ад вачэй?
Засціць вочы сукні белы сон,
Змыты ліўнямі з плячэй.

## ВЯСНОВАЕ

Захлёбваўся пенны вал,
Выходзячы з берагоў.
Забітая напавал,
Крычала чыясь любоў.

Накочваўся крыгалом
На берагі нямыя.

Нат раўчукі малыя
Спяшалі — сабе ж на злом.

Свет шумеў навіной,
Птушка вясну вітала.
А як заставацца адной —
Доля яшчэ не спазнала.

* * *

І тчэ жыццё гады,
нібы палотны
Матуля — у пасаг і пра запас.
...У самы цяжкі час, у час самотны —
Я знала Вас!

А быў пасаг мой не зусім заможны:
Вось толькі крылы лёгкіх рук і броў.
У самы смутны час, у час трывожны
Ўзыдзі, любоў!

Я прасачу спакойнымі вачыма
Сваё жыццё без шуму, без прыкрас.
І паміраць не страшна з той прычыны,
Што помню Вас!

* * *

Не табе журыцца, слава богу.
Не табе лавіць мой весні смех.
Весела праводзілі ў дарогу
Дробны дождж ык і сыпчасты снег.

З імі ўсё ж прасцей, як ні журыся.
А расстання коціцца клубок.
Срэбны дождж на шчасце заіскрыўся,
На удачу — студзеня сняжок.
Часты перастук вагонных колаў,
І чужое радасці імгла.
Так не вандравала я ніколі
І такой аглухлай — не была!

* * *

Гэта, мілы мой, лёсу насмешка:
На якую такую бяду
Белым цветам усыпана сцежка,
Я ж — па лёстачцы хісткай іду.

І нашто столькі мройнага квету
Абляцела яшчэ без пары,
І якому шчасліваму лету
Зноў кукуе зязюля ў бары?

Ты ідзі старанoю, старонкай,
Мой, да кропелькі мой, і — чужы!
Белым кветам, калінаю горкай,
Агнявою агромленай гронкай
Паўстаю на ўспамінак душы.

* * *

Як і не быў, а толькі мроя
Наведала мой ціхі дом.
Не сходзяцца гара з гарою
І з крыгаломам — крыгалом.

Але чаму так светла стала,
Нібы зямля пасля дажджоў,
І напралёт я ноч не спала,
Шукаючы удзячных слоў.
Не, не скажу табе: «Адзіны,
Найласкавейшы мой...»
Але
Вартую чуйны твой гадзіннік,
Забыты на маім стале.

* * *

Так нараджаецца дзіўны раманс,
Так пачынаюцца светлыя словы.
Ў час адзіноты не думаць пра Вас,
Думаць пра Вас — у хвіліны любові.

Покуль краёчак маладзіка
Вольна ў нябесным абшары мадзее,
Злітуйся, памяці гнеўнай рака,
Хай прадаўжаецца ветах надзеі.

Гладкай дарогі не выраіў лёс,
Поле жыцця ды не спрэс — каб жытам
За шумналістаю пушчай бяроз
Мы размінёмся, а вечнасць — над намі

І ці ты выстаіш, круча-любоў,
Тая,
якой мы баімся і самі,
Як белакорае дрэўца гадоў
Над маразамі і над слязамі.

## СПЯКОТНЫ СНЕГ

І снегу, і лёду замнога,
І смаляць ваўсю маразы.
Супольная наша дарога
Пралегла, як два палазы.

Ды хіба ж я гэткае долі
Ў надзеі — схілялася ніц?
І цягнуцца вусны ў спатолі
Да мёрзлых на снезе брусніц.

* * *

Дарэмна нязбыўную згадку нашу́,
І пальцы змыкаюцца ў тайным саюзе.
Ты пройдзеш — і міма,
як восеньскі шум.
І пусціш любоў, нібы чарку па крузе.

І тая, што побач ад першай рукі,
Ад блізкасці першай з гарчынкаю свята,
Бязвольная,
воляй тваёй кавякі
Заручыцца: ісціна не вінавата!

* * *

І калі звычайным кругам
Замыкаецца шаша,
І калі з любімым другам
На разрыў ідзе душа,

І разрыў-журба драпежна
Па скразному слыху б'е,—
Адмаўляю незалежнасць,
Прыналежная Табе!

* * *

Водар лета самлела-гаркавы,
П'ю бярозавы ранак з карца.
Ты — ці вернешся ў спелыя травы?
Я — ці буду з табой да канца?

Напалову глухім аксамітам
Зарасла паміж намі сцяга.
І раздзелены бытам, нібыта,
Наша радасць і наша туга.

А касцёр, што шугаў на Купалу,—
У грудзях маіх сёння гарыць.
...Незваротнае лета настала,
Неслухмянае лісце шуміць.

У палоне нягоды ці славы —
Цернавая спякота вянца.
Ты — ці вернешся ў спелыя травы?
Я — ці стану тваёй да канца?

* * *

Дзякуй, мілы, за вясну,
За вясёлую сустрэчу.
Ды сама свайму ж вяслу
Плыць насустрач запярэчу.

Размінуцца б у пару
І не стрэціца вачамі.
«Средь весёлых на пиру
Есть всегда один печальный».

* * *

Жывіце і любіце,
Свой беражыце дом.
...Як птушку у блакіце,
Мяне застане гром.

Была ў жыцці я весняй
І лёгкаю на ўзмах
Над соснамі — у лесе,
Над жытам — у палях.

Таму раскажуць сосны,
Жытоў паспелых звон
Пра лёс мой высакосны
І невыносны сон.

Зямля — мая калыска,
Табе адной відаць,
Што немагчыма нізка
Ні падаць, ні лятаць.

* * *

Ах, што там запарушана
Слязінкай — на вярсту?
...Як дзікая ігрушына,
Я для цябе расту.

* * *

Над зажуранай парошаю
Сонца выпырхне ўгары.
Развітаемся, харошы мой,
Да наступнае зары.
Злая доля перамелецца,
Гарката перагарчыць.
Глянь, як сцежачка яснееецца —
Нават боязна ступіць.
Можа, ўспомніш у палын-журбе
Кос шаўковых сенажаць,
Як умела прывячаць цябе
І — не ўмела адпускаць.

* * *

З якой вясны, з якое б та прычыны
Сярод каляных студзеньскіх снягоў
Чужога і далёкага мужчыну
Шкадую, як нязбытнага свайго.

Хіба што гэтак просяць суцяшэння
У адзінотнай камеры цішы;
А ці ваююць так з апусташэннем
Задушанай турботамі душы?

А ён маўчыць, далёкі той мужчына,
Яму на скроні снегу намяло.
Яго кахала дзіўная жанчына,
Яму дарыла дзіўнае святло...

Дрыготкія ў вачах адбіткі неба,
Як два азерцы поўныя стаяць.
І разумею: суцяшаць не трэба.
І адчуваю: позна шкадаваць.

* * *

Ты волі гэтае жадзён,
І да апошняе разлукі
Зноў праплывуць у змене дзён
Прыборкі, Прысухі, Прылукі.

А як прысушвалі мяне
І сарамліва прывячалі
Прыборскі дождж, прылуцкі снег
І прысушанскія ручаі!

Ды як, як з цеснага сіла,
Зноў вырывалася адчайна.
Вішнёвай замецццю сяла
Успыхне памяць за плячамі.

І ўзыдуць светла, нібы ў сне,
Наскрозь калянымі начамі —
Прыборскі Дождж, прылуцкі Снег
І прысушанскія Ручаі.

* * *

Не абарві струну рукі,
Я не хачу расстацца.
Твае на поўнач цягнікі,
Мае — на захад мчацца.
І перапоўнены вагон
Наскрозь чужой бяседай.
Ды аблачынкай ля акон —
Я за табой па следу.
Не прагані яе з чала
Паўночнага світання.
Я толькі зараз пачала
Жыць у імя вяртання.

* * *

Душы не патрывож
Адчайнай і шчымлівай.
...О, гэты бедны дождж
Над урадлівай нівай!

Па кропельцы — здаля
Апала так нямнога.
А просіцца ж зямля
У неба — праліўнога!

Я думала: адна
Не засумую з летам.
А доля, як вайна,
Па ласцы — рыкашэтам.

Ды не змірыцца ўсё ж
Мне з цішай сіратлівай.
...О, гэты бедны дождж
Над урадлівай нівай!

* * *

Ах, на шчасце, яшчэ ды не ўсохла балота,
А за ім векавее зажураны гай.
Покуль дождж не пайшоў, не апала лістота
Запрашаю цябе ў журавінавы рай.

Не адна пратаптана ў балоце сцяжынка,
Ды ізноў зарастае травою наскрозь.
Жураўелю ты мой, я твая журавінка,
Што не вяне пад снегам і ў грозны мароз.

Але ты — гарадамі! І як за гарамі —
Немагчыма дазвацца, даклікацца мне.
Застаюся адна з векавымі дара́мі
У сівой, у палескай сваёй старане.

Толькі далечы гэтай адкрытая насцеж,
Зноў святлее душа, як лістотай лясы.
...Журавінавым болем прабілася шчасце,
І палае яно паміж позняй расы.

* * *

Была кладка хісткая —
Як не праламалася.
Сэрцам — сэрцу блізкая
Ласка адгукалася.

Была ночка росная
З пошаптам сасён лясных,
Ўпершыню дарослая
У семнаццаць боязных.

Сорам белай блузкаю
З белых плеч аброненьі.
Што ж смугой заслонены
Дзве брывінкі вузкія?

Слёзанькі гаручыя —
Бегчы, ліцца ручайку
І па праву ручаньку,
І — па леву ручаньку!

* * *

Любіце не вясну,
А птушак шчабятанне.
Як лёс праз сівізну —
Тваіх гадоў дыханне.

Адчайны крыгалом,
Надзеі ж — не скрышыцца!
Праз лёд, праз буралом
Твая вясна вяршыцца.

Бы ў самы першы раз
На рэскваcі расстання
Прымаю не адказ,
А цішыню пытання.

Ты можаш прамаўчаць,
Ды не забыць пра гэта:
На беразе пляча
Спакойны наступ лета.

* * *

Ты яшчэ выжывеш, беднае сэрца,
Толькі спагады сабе не прасі!
Ах, як наводмаш ударылі дзверцы
Зялёнаскурага звера — таксі.

Едзьце, таксіст!.. Я усё-такі пешкам...
А ці забыта праз вёрсты хада?
І па-наіўнаму, трошачку смешна,
І па-жаноцкаму, крыху шкада

Гэтага — скуль яго знае! — ўтрапення,
Гэтай прыспешкі — данінаю дню.
Так да наступнага будзе імгнення...
Едзьце!.. Я вас ані ў чым не віню.

* * *

Як просіцца сцежка пад ногі
І тчэцца яе палатно!
Да самай апошняй дарогі
Я буду з табой заадно.

Не толькі таму, што кахаю,
Жыццём за насмешку плачу:
Я іншага шчасця не знаю
І ведаць яго — не хачу!

* * *

А з якой былой разлукі
Працягну насустрач рукі
І ў здзіўленні анямею
Перад воблікам тваім...

На пуцінах суравею
Расстае спадману дым.

Вось ён: дужы, нечаканы,
Неспазнаны, некаханы
Горкай краскай палявою,
Пылам выстылых дарог...

Труднай ласкі удастою
Заглянуць на мой парог.

Што ж — глядзі! Я вось такая:
Незямная і зямная,
З дрогкай радасцю бяссоннай,
З непрагляднаю вярстой...

Дабрадзеем — стол кухонны.
Ліхвяром — пісьмовы стол.

ЗМЕСТ

Янішчыц Я.
32 На беразе пляча: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 96 с.
45 к.

Новая кніжка лірыкі, яна прасякнута думкамі і пачуццямі нашага сучасніка. Вершам паэтэсы, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, характэрны яркая вобразнасць і музычнасць.

ББК 84 Бел 7
Бел 2

70402—210 / М 302(05)—80 61—81

*Евгения Иосифовна Янищиц*

НА БЕРЕГУ ПЛЕЧА

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак В. А. Губараў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Н. І. Астроўская.

ІБ № 1025

Здадзена ў набор 15.07.80. Падп. да друку 24.10.80. АТ 05230. Фармат 75×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,75. Ул.-выд. арк. 3,87. Тыраж 6000 экз. Зак. 846. Цана 45 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.